Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 120.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Аўторак, 10 лістапада 1998 г. | № 120 (512) | Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

*У Мсціслаўлі арыштавалі сына старшыні райвыканкама*

## Такія людзі доўга не сядзяць

**У мінулы чацвер супрацоўнікі магілёўскай міліцыі затрымалі сына старшыні Мсціслаўскага райвыканкама Сяргея Дземідзенку. Аператыўнікі падазравалі яго ў арганізацыі замаху на жыццё чалавека.**

Па нашых звестках, 24-гадовы Сяргей Дземідзенка, які з'яўляецца першым сакратаром Мсціслаўскага райкама БПСМ, папрасіў 39-гадовага мясцовага майстра Сяргея Сураўцава зрабіць рамонтныя работы ў сваім доме. Дземідзенка, нібыта, паабяцаў майстру за работу адну суму грошаў, а пасля рамонту заплаціў іншую, у некалькі разоў меншую. Абураны рабочы пачаў патрабаваць ад сына галоўнага раённага "вертыкальшчыка" выплаціць яму астатнюю суму. Тады Дземідзенка папрасіў умоўнаасуджанага выхаванца мясцовай спецкамендатуры («вольнага пасяленца») разабрацца з надакучлівым грамадзянінам. Той вечарам падпільнаваў Сураўцава, калі ён вяртаўся з працы, і збіў так, што чалавек з разарваным жоўцевым пухіром і адбітымі ныркамі ўжо два тыдні знаходзіцца ў рэанімацыі. Урачы гавораць, што стан яго здароўя вельмі цяжкі.

Аператыўнікі спачатку арыштавалі выканаўцу злачынства, і той паведаміў следству, што «заказчыкам» быў менавіта Дземідзенка. Супрацоўнікі Магілёўскага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю затрымалі Сяргея Дземідзенку. Але за кратамі ён знаходзіўся нядоўга, праз некалькі дзён яго выпусцілі на волю.

Учора мы патэлефанавалі ў магілёўскі крымінальны вышук, дзе расследуецца гэтая справа. Рэакцыя на наш званок была вельмі нервовай. Супрацоўнік крымінальнага вышуку, які не назваў свайго прозвішча, параіў нам «не шукаць смажаных фактаў» і запатрабаваў наогул нічога не пісаць пра гэтую справу. Маўляў, Дземідзенка цяпер выпушчаны на свабоду, яго віна не даказаная.

Па нашых звестках, цяпер магілёўскія чыноўнікі самага высокага рангу спрабуюць ціха замяць гэтую брыдкую гісторыю і «адмазаць» сына мсціслаўскага «вертыкальшчыка».

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**




## Чырвонае свята

*У суботу, 7 лістапада, у Мінску адбылася дэманстрацыя, прысвечаная 81-й гадавіне кастрычніцкага перавароту*

Усклаўшы кветкі да помніка Леніну на плошчы Незалежнасці, калона рушыла па праспекце Скарыны. Па ацэнцы начальніка мінскай міліцыі генерала Барыса Тарлецкага, сабралася каля 12 тысяч чалавек (па іншых ацэнках — каля 6 тысяч).

Наперадзе калоны ішлі намеснік старшыні гарвыканкама і лідэр КПБ Віктар Чыкін, а таксама спікер гэтак званай палаты прадстаўнікоў, былы першы сакратар ЦК КПБ Анатоль Малафееў.

Сярод удзельнікаў дэманстрацыі было даволі шмат моладзі. *«Нас запрасілі, і мы пайшлі разам з нашымі сакурснікамі,* — сказалі студэнткі Эканамічнага універсітэта Таня і Лена. — *Тут весела, шмат народу, нам цікава».*

Прынялі ўдзел у святкаванні і прадстаўнікі міфічнай Усесаюзнай партыі камуністаў (бальшавікоў) — каля дваццаці чалавек ішлі з партрэтамі Леніна, Сталіна і Лукашэнкі. Перыядычна яны крычалі ў мегафон «Да здравствует дело Ленина-Сталина. Ура!» Натоўп нязладжана падтрымліваў заклік — абы пакрычаць.

Дэманстрацыя скончылася на плошчы Перамогі. Пасля ўскладання кветак да помніка людзі хуценька разбегліся па суседніх крамах — мужыкі за гарэлкай, жанчыны за торцікамі.

Такім чынам, 7 лістапада яшчэ раз пацвердзілася любоў народа да святаў — усё роўна якіх. Нават калі аднойчы на дзяржаўным узроўні будзе вырашана адзначаць дзень нараджэння, напрыклад, Гітлера, упэўнены, знойдзецца дастаткова ахвотных прыняць удзел у святкаванні: ісці з партрэтамі, крычаць здравіцы альбо размахваць сцяжкамі са свастыкамі і рознакаляровымі шарыкамі — бо весела.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**




*На здымках: дэманстрацыя 7 лістапада ў Мінску.*

## Лукашэнка сустрэнецца з прэзідэнтам Літвы

Як паведаміла прэзідэнцкая прэс-служба, Аляксандр Лукашэнка сёння прыме намесніка прэм'ер-міністра Турцыі — міністра нацыянальнай абароны гэтай краіны Ішмета Сезгіна, які знаходзіцца ў Мінску з афіцыйным візітам. На гэты ж дзень запланаваная сустрэча А.Лукашэнкі з кіраўніком групы АБСЕ ў Беларусі паслом Хансам-Георгам Вікам.

На 12 лістапада запланаваная сустрэча Аляксандра Лукашэнкі з прэзідэнтам Літвы Валдасам Адамкусам. Яна адбудзецца на адным з пагранічных пераходаў беларуска-літоўскай мяжы ў Ашмянскім раёне. На 13 лістапада назначаная сустрэча прэзідэнта Беларусі са спікерам расійскай Дзярждумы Генадзем Селязнёвым.

## Прыедзе калега Шэймана

Заўтра прыбывае ў Мінск з аднадзённым візітам сакратар Савета бяспекі Расійскай Федэрацыі Мікалай Бардзюжа.

Як паведамілі ў прэс-службе Савета бяспекі РБ, плануецца, што М.Бардзюжа сустрэнецца з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам і дзяржаўным сакратаром Савета бяспекі Віктарам Шэйманам. Чакаецца, што па выніках перамоваў будзе падпісаны пакет дакументаў, якія датычаць двухбаковага супрацоўніцтва. Пра змест дакументаў пакуль нічога не паведамляецца.

## Заяўка ад Статкевіча

Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя Народная Грамада накіравала ў Мінгарвыканкам заяўку на правядзенне 24 лістапада дэманстрацыі і мітынгу ў сувязі з гадавінай рэферэндуму 1996 года. Як адзначаецца ў заяўцы, акцыя праводзіцца ў падтрымку дэмакратыі і ў абарону сацыяльных правоў працоўных.

*БелаПАН*

## Беларусь просіцца ў Савет Еўропы

**У пятніцу завяршыўся трохдзённы візіт у Беларусь віцэ-прэзідэнта Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Роберта Антрэтэра.**

Вынікі сваіх сустрэчаў ён падвядзе ў спецыяльным дакладзе на бюро ПАСЕ, якое збярэцца 17 снежня. У студзені «беларускае пытанне» будзе разглежанае на сесіі Парламенцкай асамблеі.

На прэс-канферэнцыі ў Мінску спадар Антрэтэр выказаў шкадаванне, што *«Беларусь застаецца белай плямай на карце Еўропы»*. Падчас свайго візіту ён вывучаў *«адпаведнасць прававой базы асноўным прынцыпам Савета Еўропы»*. Рэч у тым, што Беларусь хоча ўступіць у гэтую ўплывовую еўрапейскую арганізацыю, якая аб'ядноўвае 40 краінаў. Перамовы на гэты конт былі спыненыя пасля таго, як Аляксандр Лукашэнка разагнаў Вярхоўны Савет 13-га склікання. На сустрэчы з Р.Антрэтэрам беларускі прэзідэнт заявіў, што *«узровень дэмакратыі ў Беларусі не меншы, чым у іншых краінах Савета Еўропы»*. Але высокі госць пакінуў Мінск з іншым меркаваннем.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Міліцыя шукае падрыўнікоў

**Напярэдадні 7 лістапада ў г.Жодзіна адбылося надзвычайнае здарэнне, якое вымусіла спешна мяняць сцэнарый святочных мерапрыемстваў.**

У ноч з 5 на 6 лістапада невядомыя падарвалі помнік Леніну, які стаіць у цэнтры Жодзіна, каля палаца культуры аўтазавода. У бетоннага праваднера, вышынёй каля пяці метраў, па словах начальніка гарадской міліцыі, «знесла пярэднюю частку галавы». Раніцай гарадскія ўлады абматалі параненага Ільіча белай тканінай і апранулі ў драўляны «саркафаг». Тэрмінова аднавіць пярэднюю частку галавы праваднера было немагчыма. Гарадскія ўлады прынялі рашэнне перанесці ўскладанне кветак і святочны мітынг да другога помніка Леніну, які знаходзіцца каля жодзінскай ЦЭЦ. Кажуць, што і гэты Ленін пацярпеў ноччу. Яго выпацкалі непрыгожай фарбай. Гарадскім уладам давялося перад мітынгам памыць праваднера.

Старшыня Жодзінскага гарвыканкама Валерый Кашэўскі паведаміў нам, што на верхняй частцы пашкоджанага помніка былі знойдзеныя элементы выбуховага прыстасавання. Мэр Кашэўскі сказаў, што жодзінцы абураныя дзеяннямі таго, хто *«замахнуўся на гэтае свяшчэннае месца»*.

Падарванага Леніна цяпер рыхтуюць да рэстаўрацыі, а міліцыя ўзбудзіла крымінальную справу і занялася пошукам падрыўніка. Нават па мясцовым радыё жодзінцаў папрасілі паведаміць пра зламыснікаў, прычым гарантавалі «ананімнасць». Міліцыя выклікала на допыт 24-гадовага настаўніка гісторыі сярэдняй школы № 6 Анатоля Каралёва, які раніцай пасля выбуху фатаграфаваў пашкоджаны помнік.

Як нам сказалі ў гарадскім УУС, падрыўнікі пакуль не знойдзеныя. Адказнасць за выбух не ўзяла на сябе ніводная арганізацыя.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## У Брэсце 7 лістапада быў бясплатны цукар

**Брэсцкая філія Маладога Фронту вырашыла па-свойму адзначыць камуністычнае свята.**

Як паведаміў праваабарончы цэнтр «Вясна-96», 7 лістапада падчас афіцыйнага мітынгу на плошчы каля помніка Леніну з'явіліся пяць хлопцаў з Маладога Фронту з плакатамі: «Віншуем са сьвятам ахвяраў і катаў». Апрача гэтага, маладафронтаўцы прынеслі да помніка Леніну вялізны мяшок цукру, да якога прымацавалі плакат: «Цукар на халяву!» Яны прапанавалі пенсіянерам бясплатны цукар.

Але пакарыстацца цукрам ніхто не паспеў, бо маладафронтаўцамі зацікавілася міліцыя, якая запатрабавала ад удзельнікаў акцыі пашпарты. *«Вы парушаеце грамадскі парадак!»* — заявіў супрацоўнік міліцыі. *«Мы толькі хацелі дапамагчы старым людзям»,* — адказаў адзін з удзельнікаў акцыі рабочы Сяргей Грынь.

**М.К.**

# Рыхтуйся ў войска

**5 лістапада на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску прайшло гарадское свята — Дзень прызыўніка.**

Адкрываючы свята, старшыня гарадской прызыўной камісіі, намеснік старшыні Мінгарвыканкама Віктар Чыкін запэўніў нешматлікіх прысутных на плошчы маладых людзей прызыўнога ўзросту, што ў гэтую прызыўную кампанію, разам з іншымі юнакамі, пойдзе служыць у армію і сын прэзідэнта Беларусі.

*БелаПАН*



*На здымку: на Кастрычніцкай плошчы ў Дзень прызыўніка дэманстравалася некалькі адзінак баявой тэхнікі.*

## Выбух у воінскай часці

**Спецыяльная следчая брыгада расследуе абставіны выбуху ў воінскай часці, у выніку якога загінуў адзін чалавек**

Здарылася гэта 5 лістапада. Паводле папярэдніх дадзеных, прычынай выбуху стала неасцярожнае абыходжанне вольнанаёмнага рабочага з піратэхнічнымі сродкамі. У гэты дзень у воінскай часці праводзілася планавае знішчэнне кампанентаў авіяцыйных сродкаў паражэння. Для гэтых мэтаў выкарыстоўвалася спецыяльная печ, сканструяваная і вырабленая 45-гадовым слесарам, які загінуў.

*БелаПАН*

## «Мінёры» ставяць рэкорды

**У кастрычніку ў Гродне зафіксаваная рэкордная колькасць ананімных паведамленняў пра замініраванні — 13, а ўсяго з пачатку года — 33.**

«Мініравалі» ў асноўным школы, вучылішчы, дзяржуніверсітэт. Хаця былі таксама паведамленні аб «бомбах» на чыгуначным вакзале і ў буйнейшым у вобласці магазіне гандлёвага дома «Нёман». Ніякіх выбуховых прыладаў выяўлена не было. Але ў папярэднія месяцы пасля ананімных званкоў сапёрамі было знойдзена шэсць падазроных прадметаў, чатыры з якіх уяўлялі небяспеку.

*БелаПАН*

## «Наша Слова» выходзіць у райцэнтры

**Год назад газета «Наша Слова» пачала выходзіць у Лідзе. Перад тым гэтае выданне Таварыства беларускай мовы паўгода не друкавалася, паколькі дзяржаўныя органы адмовіліся яго фінансаваць.**

Цяпер газета выдаецца на ахвяраванні, а таксама дзякуючы падпісцы. За год паявілася каля 1.600 падпісчыкаў. Сярод ахвярадаўцаў ёсць самыя нечаканыя. Напрыклад, на апошні нумар пералічылі грошы нават першакурснікі Акадэміі міліцыі РБ. «Наша Слова» з'яўляецца штотыднёвікам, у бліжэйшы час плануецца павялічыць яго аб'ём удвая — да васьмі старонак. Рэдагуе газету Станіслаў Суднік.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Судзяць за петыцыю прэзідэнту

**Як і чакалася, улады пачалі рэпрэсіі супраць арганізатараў і ўдзельнікаў мітынгу рабочых, які прайшоў у Мінску 5 лістапада.**

Усяго прыцягнута да адказнасці, па нашых дадзеных, 15 чалавек. Разабрацца з удзельнікамі чацвярговага шэсця да прэзідэнта даручана суддзі Мікалаю Трубнікаву з Партызанскага суда Мінска.

Судовы канвеер пачаў працаваць ужо ў пятніцу, 6 лістапада. У той дзень суддзя Трубнікаў разгледзеў справы шасці ўдзельнікаў мітынгу. Суддзя пастанавіў, што старшыня Свабоднага прафсаюза Марыя Аліева і 24-гадовая Алена Лазарчык вінаватыя ва ўдзеле ў несанкцыяваным шэсці да прэзідэнта, і вынес ім папярэджанне. Справы астатніх «парушальнікаў» па розных прычынах былі перанесеныя. У прыватнасці, рабочы Мінскага аўтамабільнага завода Павел Скрабец папрасіў час, каб знайсці адваката, з чым суддзя пагадзіўся.

Аднак у панядзелак нават прафесійны абаронца не здолеў дапамагчы рабочаму. Павел Скрабец быў прызнаны вінаватым і атрымаў папярэджанне за тое, што ішоў да прэзідэнта не той дарогай. На чарзе — суды над рэдактарам газеты «Рабочы» Віктарам Івашкевічам, адным з кіраўнікоў Маладога Фронту Яўгенам Скочкам ды іншымі ўдзельнікамі акцыі. Некаторых з іх міліцыя яшчэ шукае, каб уручыць павесткі ў суд. Напрыклад, дагэтуль ідзе «паляванне» на Вячаслава Сіўчыка, які вымушаны хавацца.

Цікава, што ўлады не абмежаваліся пераследам прафсаюзных актывістаў. Да адказнасці былі прыцягнутыя таксама прадстаўнікі праваабарончай арганізацыі «Вясна-96» Алесь Бяляцкі і Вадзім Канапацкі. Іх заявы аб тым, што яны прысутнічалі на мітынгу і шэсці толькі ў якасці назіральнікаў, на суддзю Трубнікава не паўплывалі. Алесю Бяляцкаму ўчора суд вынес папярэджанне, а суд над Вадзімам Канапацкім адбудзецца праз тыдзень.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Кошт плаката – 7 мільёнаў

***Гомельскі актывіст спрабаваў прадаць на рынку «крамольны» плакат***

Яўген Мурашка, старшыня гомельскай арганізацыі Беларускага Хельсінкскага камітэта 7 лістапада затрыманы супрацоўнікамі міліцыі на цэнтральным гарадскім рынку падчас продажу плаката «Злачынная тая ўлада, якая парушае правы сваіх грамадзянаў».

З гэтым плакатам Яўген Мурашка 19 кастрычніка правёў пікет каля Гомельскага гарвыканкама, за які потым быў аштрафаваны судом на 7 мільёнаў рублёў. Прадаваў ён плакат на рынку за 7 мільёнаў 100 рублёў. Пакупнікі ж прапаноўвалі яму ад 100 да 500 тысяч рублёў. Заплаціўшы за месца на рынку 45 тысяч рублёў, Мурашка змог пратрымацца там менш за гадзіну. Супрацоўнік міліцыі праверыў наяўнасць талона на разавы гандаль і запатрабаваў пасведчанне прадпрымальніка. І хоць такі дакумент для разавага продажу не патрабуецца, Мурашку забралі ў РАУС Цэнтральнага раёна. Магчыма, яго паспрабуюць абвінаваціць у парушэнні правілаў прадпрымальніцкай дзейнасці.

*БелаПАН*

# В стране кризис, но рейтинг «батьки» высок

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**

Парадоксально, но факт. Согласно социологическому опросу, проведенному в сентябре лабараторией Андрея Вардомацкого «Новак», подавляющее большинство граждан Беларуси считает, что они стали жить хуже. Несмотря на это, рейтинг Александра Лукашенко не только не падает, но даже несколько вырос. Объяснить этот феномен можно разве что одним: отсутствием у «батьки» реальных конкурентов.

Четыре месяца назад (в мае 1998 г.) экономическое положение Беларуси как плохое (или очень плохое) оценивали 47,7% (примерно столько же таким же образом оценили и положение своей семьи). В сентябре таких набралось 57,1%; материальное положение своей семьи плохим либо очень плохим считают 58,3%.

«Очень хорошим» материальное положение своей семьи не назвал ни один респондент! Число же тех, кто считает положение страны и своей семьи хорошим, уменьшилось по сравнению с маем почти вдвое. 65,9% отмечают, что положение их семей ухудшилось. Ухудшение состояния экономики Беларуси констатировали 67,4%; в Минске процент таких еще больший — 73,3%. Почти 60% опрошенных прогнозируют, что их собственное материальное положение и дальше будет ухудшаться.

По логике, из таких выводов непреложно должно следовать усиление недовольства по отношению к тем, кто находится у власти. Однако, если в мае за Александра Лукашенко на президентских выборах были готовы проголосовать 44,6%, то в сентябре — 49,8%. Вместе с тем почти 40 процентов смогли определить, кого они могли бы выбрать в президенты. По столице этот показатель еще выше — 48%.

«Батьке» они однозначно не доверяют и поддерживать его не хотят — ведь Лукашенко знают все, тут уж на «нераскрученность» не спишешь. Если добавить к ним те крохи доверия, которые достались оппозиционным политикам, то число тех, кто не доверяет Лукашенко, перевалит по Беларуси за 50%. Следовательно, потенциал у противников режима есть. Да и высокий рейтинг «батьки» тоже не является следствием горячей массовой поддержки. Наверняка многие высказались за Лукашенко, опять же, «на безрыбье», т.е. только потому, что не видят достойных соперников. Точно так же в свое время, несмотря на ухудшение экономической ситуации, сохранял высокий рейтинг В.Кебич. Продолжалось это до тех пор, пока у него не появился привлекательный для избирателей соперник — в лице нынешнего диктатора.

Итак, неудовлетворенность ситуацией, даже если она приводит к недоверию Александру Лукашенко, автоматически не добавляет очков его политическим противникам. Посему главной для оппозиции, очевидно, является проблема популяризации лидеров, создания персональных имиджей, «раскрутки» тех, кто есть, или же поиск новых.

Пока не будет привлекательных лидеров — думается, останется низким и рейтинг политических партий. По состоянию на сентябрь он удручает.

*Материал подготовлен по результатам опроса общественного мнения, проведенного социологической лабораторией Андрея Вардамацкого «Новак». За интерпретацию цифрового материала лаборатория «Новак» ответственности не несет.*

**Как бы вы оценили экономическое положение Беларуси в настоящий момент?**

| | % |
|---|---|
| Очень хорошее | 0,2 |
| Хорошее | 2,9 |
| Среднее | 35,6 |
| Плохое | 40,4 |
| Очень плохое | 16,7 |
| Затрудняюсь ответить | 3,6 |
| Нет ответа | 0,8 |

**Как бы вы оценили экономическое положение вашей семьи в настоящий момент?**

| | % |
|---|---|
| Очень хорошее | 0,0 |
| Хорошее | 3,3 |
| Среднее | 36,7 |
| Плохое | 42,1 |
| Очень плохое | 16,2 |
| Затрудняюсь ответить | 1,5 |
| Нет ответа | 0,3 |

**Как, по вашему мнению, изменилось состояние экономики Беларуси за последний месяц?**

| | % |
|---|---|
| Улучшилось | 3,2 |
| Осталось прежним | 20,3 |
| Ухудшилось | 67,4 |
| Затрудняюсь ответить | 8,2 |
| Нет ответа | 0,9 |

**Как, по вашему мнению, изменилось экономическое положение вашей семьи за последний месяц?**

| | % |
|---|---|
| Улучшилось | 0,9 |
| Осталось прежним | 31,2 |
| Ухудшилось | 65,9 |
| Затрудняюсь ответить | 1,6 |
| Нет ответа | 0,5 |

**Как бы вы оценили в целом политическую обстановку в Беларуси? — Она:**

| | % |
|---|---|
| Благополучная | 3,8 |
| Спокойная | 48,4 |
| Напряженная | 33,5 |
| Критическая, взрывоопасная | 5,9 |
| Затрудняюсь ответить | 7,3 |
| Нет ответа | 1,2 |

**Если бы в ближайшее время состоялись новые выборы президента Республики Беларусь, кого бы вы поддержали в первую очередь? А за какого потенциального кандидата в президенты вы ни в коем случае не стали бы голосовать?**

| | За | Против |
|---|---|---|
| Лукашенко | 49,8 | 14,3 |
| Пазьняк | 2,9 | 15,5 |
| Шушкевич | 1,2 | 7,5 |
| Карпенко | 1,2 | 0,1 |
| Богданкевич | 0,9 | 1,3 |
| Кебич | 0,8 | 3,1 |
| Линг | 0,7 | 0,1 |
| Калякин | 0,4 | 0,5 |
| Шарецкий | 0,1 | 1,0 |
| Нет таких | 4,7 | 0,5 |
| Затруд.ответить | 20,6 | 24,6 |
| Нет ответа | 14,2 | 24,8 |

**Если бы в ближайшее время состоялись выборы, за какую из перечисленных партий вы бы проголосовали? (отметить до 3-х партий)**

| Партии | % |
|---|---|
| Женская партия «Надзея» (Полевикова) | 7,6 |
| Коммунистическая партия Белоруссии (Чикин) | 7,4 |
| Партия Белорусского народного фронта (Пазьняк) | 4,8 |
| Славянский собор «Белая Русь» (Сергеев) | 3,8 |
| Белорусская партия «Зеленый мир» (Громыко) | 3,7 |
| Объединенная гражданская партия (Богданкевич) | 3,5 |
| Партия коммунистов белорусская (Калякин) | 3,3 |
| Республиканская партия труда и справедливости (Нетылькин) | 3,1 |
| Белорусская крестьянская партия (Лугин) | 3,1 |
| Белорусская социал-демократическая партия «Народная Громада» | 3,1 |
| Белорусская партия труда (Бухвостов) | 2,3 |
| Белорусская республикаская партия (Артишевский) | 1,4 |
| Другая | 1,7 |
| Не голосовал бы | 22,8 |
| Затрудняюсь ответить | 44,4 |

*Еще один союз*

# Славяне против NATO

**Учредительная конференция Международной славянской организации, которая станет противодействовать расширению *NATO*, состоялась в прошлую среду в Москве.**

Славянский военно-патриотический союз (СВПС) намерен объединить военно-патриотические организации, действующие на территории всех славянских государств. Уже сейчас в этот союз вошли представители России, Украины, Беларуси, Югославии, Польши, Чехии и других стран. Кроме того, члены новой организации будут *«противодействовать славянофобии, распространению чуждых славянам нравов, охранять памятники боевого братства, могилы и кладбища военнослужащих»*. Участники конференции приняли обращение к руководству *NATO*, в котором заявили о поддержке сербов и выразили протест против расширения альянса на Восток.

# Французы приветствуют евро, а немцы – не очень

**В прошлую пятницу несколько ведущих европейских газет опубликовали результаты опроса, в котором участвовали 11.567 граждан одиннадцати стран ЕС. Темой опроса было отношение европейцев к введению единой европейской валюты.**

По поводу евро мнения разделились: наибольший скепсис выразили немцы (55% опрошенных против) и испанцы (46%). Энтузиастов новой валюты больше всего среди французов — 55%. Если же вывести «среднебольничную температуру», 48% опрошенных европейцев приветствуют введение евро, а 41% заявили о своем неодобрении.

Самыми популярными руководителями на европейском уровне были названы Тони Блэр (59% положительных отзывов), Гельмут Коль (49%) и Жак Ширак (42%). Меньше всего голосов набрали французский и испанский премьеры Лионель Жоспен (25%) и Фелипе Гонсалес (32%) и новый немецкий канцлер Герхард Шредер — 28%.

**Б.П.**

# Может ли белорус обратиться в Европейский суд ?

*В состав Европейского суда входят 40 судей — по одному от каждой страны-члена Совета Европы*

*«Клянусь осуществлять свои полномочия судьи с честью, независимостью и беспристрастностью, а также хранить судебную тайну»*. Такими были слова присяги председателя Европейского суда по правам человека Люциуса Вильдхабера и всех остальных 39-ти судей в день инагурации нового Суда, которая состоялась неделю назад (3 ноября) в Страсбурге.

Реформирование прежнего Суда по правам человека назревало давно по многим причинам, главная из которых в том, что Совет Европы и сама Европа уже не те, что были пять—семь лет назад. 90-е годы привели в Евросовет целую плеяду новых государств из бывшего соцлагеря, что повлекло за собой неизбежное увеличение исков в адрес Суда по правам человека. Да и сами по себе иски стали более сложными. В изменившихся условиях Европейская конвенция по правам человека, принятая еще в 1953 г. и учредившая Суд по правам человека, нуждалась в изменениях во имя собственной эффективности. И вот теперь новая Европа получила новый Суд.

Суд по правам человека рассматривает как межгосударственные споры, так и дела индивидуального характера, когда все возможности внутреннего национального права уже исчерпаны. С соблюдением этого условия каждый гражданин страны-члена Совета Европы может вынести свой спор на рассмотрение такой авторитетной международной судебной инстанции, как Европейский суд по правам человека.

Возникает вопрос: а может ли гражданин Беларуси, отчаявшийся найти справедливость в родной стране, обратиться туда, где просящий получает и ищущий находит. Ответ прост: нет. Как бы ни были ущемлены ваши права, сколько бы возможностей белорусского права вы бы не исчерпали, двери Палаты судей, настежь открытые для абсолютного большинства европейских стран (в том числе и для ближайших соседей: России, Украины, Литвы, Польши) и даже Турции, для белорусов как за семью печатями, ибо Республика Беларусь не является членом Совета Европы.



*Председатель Европейского суда по правам человека Люциус Вильдхабер (Швейцария).*

Для всей остальной Европы Суд по правам человека уже давно доказал свою эффективность. С 1954 г. Комиссия по правам человека рассмотрела свыше 40.000 исков, а Суд вынес 900 постановлений. Так на что же больше всего жалуются европейцы? На нарушение прав задержанных, прослушивание телефонных разговоров, условия иммиграции, выдворения, экстрадиции (выдача преступника иностранному государству), нарушение свободы прессы, задержку судебных решений.

А вот небольшой пример, иллюстрирующий работу Суда по правам человека, вынесшего в сентябре постановление по делу «Яза против Турции». Суд обязал Турцию уплатить 18.000 фунтов стерлингов курду Эсферу Язе, который, будучи жертвой полицейского произвола, не получил надлежащего расследования своей жалобы. Истец Яза сообщил, что полицейский ранил его выстрелом за то, что он в своем киоске продавал газеты прокурдского содержания.

Суд успешно работал сорок лет и хочет работать еще лучше, и, вне всякого сомнения, будет. Цели Европейского суда по правам человека ясны и просты: укрепить судебный характер системы; сделать механизм более доступным для физических лиц; ускорить процедуру судебного процесса и его эффективность.

**Максим ПЕТРОВСКИЙ,**
*магистр права*
*(г.Страсбург, Франция)*

# Евросоюз требует закрыть Игналинскую АЭС

Европейский союз будет требовать, чтобы Литва остановила Игналинскую атомную электростанцию. По мнению западных экспертов, она не соответствует стандартам Европы. Раньше предполагалось, что станцию закроют к 2030 году, однако ЕС с этим категорически не согласен. Он считает, что это надо делать как можно раньше. Кто будет оплачивать остановку станции, еще предстоит обсуждать.

# Российские военные будут сами добывать мясо

Руководство Мурманской области приняло решение оплатить для военнослужащих отдаленных гарнизонов лицензии на отстрел крупных рогатых диких животных.

Как только будет принято соответствующее постановление и осуществлены все технические моменты, солдаты и офицеры смогут переквалифицироваться в охотников и запастись на зиму мясными продуктами. Отметим, что в течение лета военные уже меняли специализацию, когда собирали урожай овощей. А в настоящее время в Мурманской администрации решается вопрос о выдаче пограничникам квоты на лов рыбы.

**И.М.**

*Ураган «Митч»*

# Гондурас и Никарагуа пострадали больше других

**Ураган «Митч», который пронесся над Центральной Америкой неделю назад, назван самым разрушительным ураганом в Атлантике за последние два века.**

Президент Никарагуа Арнольдо Алеман объявил, что в его стране количество погибших превысило 3.800, в Гондурасе власти называют цифру 6.420, но считают, что она вскоре перевалит за семитысячную отметку.

Таким образом, общее количество погибших исчисляется 11 тысячами, что, однако, является лишь предварительным итогом. 13 тысяч человек считаются пропавшими без вести. И реального числа жертв узнать уже не придется, поскольку унесенных водными потоками и погребенных под оползнями людей найти не удастся. В Гондурасе и Никарагуа — двух самых пострадавших странах — несколько городов и множество деревень были стерты с лица земли.

**Валерия ШАБАЕВА**

# Ураган на рынке кофе

**Согласно последним данным, ураган «Митч» уже унес около 12 тысяч жизней и нанес ущерб в 6,4 млрд. долларов. ООН считает, что страны, пострадавшие от урагана — Гватемала, Сальвадор, Никарагуа и Эквадор, — в экономическом плане отброшены на уровень двадцатилетней давности.**

Положение осложняется тем, что, помимо урагана, тропический шторм вызвал крупные наводнения. Прежде всего пострадали производители и экспортеры сельхозпродукции. Первыми о грядущих убытках в размере 50-70 млн. долларов объявили экспортеры бананов *Chiquita Brands International* и *Dole Food Co.* Не в лучшем положении и производители кофе: около 20% урожая 1998/99 года будет потеряно.

На Нью-Йоркской бирже, специализирующейся на торговле кофе, сахаром и какао-бобами, известие о потерях от урагана привело к резкому росту спроса на кофе. За два дня, 2 и 3 ноября, стоимость фьючерсных контрактов на кофе сорта «арабика» выросла на 16% — до 2.800 долларов за тонну. События на нью-йоркских фьючерсных торгах отразились на торгах в Лондоне, где стоимость контракта на поставку тонны кофе сорта «робуста» за те же два дня подскочила на 130 долларов — до 1.910 долларов. По прогнозам биржевиков, цены на кофе, вероятно, будут расти, поскольку отгрузка кофе из Латинской Америки возобновится лишь через десять дней.

**Петр КИРЬЯН**

# Прохладная война

**Российская газета «Новые известия» прогнозирует, что уже в самом ближайшем будущем отношения Москвы и Вашингтона выйдут на уровень «прохладной войны» с малоприятными для России последствиями.**

Разочаровавшись в «красном» правительстве Примакова, официальные представители администрации Клинтона стали жестко высказываться в адрес Москвы и ее якобы «антиамериканского курса».

Последним из таких выступлений стала речь специального советника госсекретаря США господина Сестановича, выступившего в Нью-Йорке на съезде еврейских общин Америки. Согласно «новым стратегическим оценкам» администрации Белого дома, в России почти полностью свернуты рыночные реформы, так и не представлена долгосрочная программа выхода из кризиса, обмануты сотни американских вкладчиков и бизнесменов. Москва раздражает США своими вызывающими действиями в различных уголках мира. Американцы сожалеют о том, что они потеряли «своих» людей в российском руководстве (упоминаются, в частности, Чубайс, Немцов и Кириенко) и не приобрели «проамериканских настроенных персоналий» в новом руководстве нашей страны (чаще всего называют Явлинского). В своих последних публичных заявлениях и публикациях в СМИ американские руководители официально говорят о том, что *«в России на государственном уровне пропагандируется антиамериканизм»*, главным проводником которого, якобы, является премьер Е.Примаков.

Главная потеря, как откровенно высказываются в последнее время американские политики, для США в России — это уход от президентских дел Б.Ельцина. Именно на него делали ставку в Белом доме, именно его персону отождествляли с реформами и сохранением команды «рыночно мыслящих руководителей» в России.

# Нищий атомщик – угроза для США

*Президент США Билл Клинтон решил всерьез заняться трудоустройством российских атомщиков*

Американское правительство намерено закупить необходимый для производства атомного оружия компонент — тритий — у России. Дело в том, что Соединенные Штаты не производили его с 1988 года и соответствующие производства законсервированы, так что закупки трития у России обойдутся дешевле.

Вице-президент Альберт Гор считает, что этим шагом американское правительство поддержит атомную промышленность России и предотвратит неизбежную продажу атомного сырья преступным синдикатам.

Эту фразу Гор сказал не случайно. На прошедшей в Сан-Франциско конференции ученых и правительственных чиновников было отмечено, что Соединенным Штатам Америки теперь противостоит не СССР, как в годы «холодной войны», а нищие российские атомщики и обладающие деньгами и международными связями авторитеты преступного мира, которые не прочь разнообразить арсеналы вооружений.

Мінскае суворaўскае ваеннае вучылішча днямі адзначыла 45 гадоў з часу заснавання. За гэты перыяд тут падрыхтавана каля 11 тысяч выпускнікоў.

Як нам паведаміў начальнік вучылішча Віталь Сціпанаў, у «сувораўцы» прымаюць з 11 гадоў. Цяпер тут навучаецца 627 хлапчукоў. Усе яны знаходзяцца на дзяржаўным пансіёне. Начальнік вучылішча папрасіў харчовую службу беларускага войска перагледзець нормы харчавання суворaўцаў. Медыкі раяць зрабіць паёк «кадэтаў» больш «смачным, каларыйным і карысным».

З нагоды юбілею вучылішча атрымала ў падарунак два каляровыя тэлевізары і 150 банак паркетнага лаку ад розных дзяржаўных ведамстваў.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**



*На здымку: дыскатэка ў суворaўскім вучылішчы. Як бачыце, «суворaўцы» не вельмі галантныя кавалеры.*

## Сосиски доедят свиньи

**Польские свиньи будут довольны — на корм им пойдут 400 тонн сосисок, которые не доехали до России и Украины.**

История с ними началась летом этого года, когда американская фирма морским путем доставила в Ригу 400 тонн сосисок. Их загрузили в 12 железнодорожных вагонов-холодильников и отправили адресатам, но ни в России, ни на Украине товар не приняли по известной причине — грянул кризис. Некредитоспособные торговцы не захотели связываться со скоропортящимся мясным изделием. Каким-то образом эшелон с сосиками въехал на территорию Польши и застрял на приграничных путях в районе городка Хрубешова. За каждый день его простоя таможня начисляла 3 тысячи злотых (около 900 долларов). В конце концов терпение таможенников лопнуло. Их начальник принял решение списать брошеный товар на сумму почти 500 тысяч долларов и отдать его на съедение свиньям.

**Валерий РЖЕВСКИЙ**

## Подвиг актрисы

**Голливудская «звезда» Вупи Голдберг совершила недавно настоящий подвиг. И все ради того, чтобы присутствовать на приеме Института кинематографа в Лос-Анджелесе.**

Чернокожая актриса просто ненавидит летать на самолетах и проделала весь путь из Вашингтона на автобусе. А это, между прочим, почти 5.000 километров! Вся голливудская тусовка была просто в шоке, а ведущий вечера Джеймс Вудс потребовал, чтобы собравшиеся устроили овацию в честь героизма Вупи. Справедливости ради надо сказать, что актриса путешествовала все же не общественным транспортом, а на специально приспособленном для дальних поездок частном автобусе.

**Б.П.**

# Даты і лёсы

## *10 лістапада*

**Сусветны дзень моладзі.**

**1483.** Нарадзіўся перакладчык Біблії на нямецкую мову і правадыр Рэфармацыі Марцін Лютэр. Ягоны разрыў з каталіцкай царквой пачаўся ў 1517 г. са спрэчкі вакол гандлю індульгенцыямі, за кошт якіх фінансавалася будаўніцтва шыкоўнай катэдры св.Пятра ў Рыме. Лютэр лічыў, што ўратаваць чалавечую душу могуць не добрыя ўчынкі, а толькі моц ягонай веры. А крыніцай гэтай веры павінна быць не царква з яе іерархамі, а толькі Біблія, якую мае права чытаць і разумець па-свойму кожны вернік.

**1888.** Нарадзіўся Андрэй Тупалеў, савецкі авіяканструктар.

**1901.** Улады выслалі са Смаргоні каля 600 удзельнікаў страйку гарбароў, які з перапынкамі доўжыўся больш за паўгода. Каля 70 арыштаваных рабочых былі адпраўленыя ў турмы Вільні і Вілейкі.

**1917.** Адным з першых дэкрэтаў савецкай улады быў забаронены выпуск «контррэвалюцыйных» выданняў.

**1919.** Нарадзіўся Міхаіл Калашнікаў, канструктар зброі.

**1938.** Памёр заснавальнік турэцкай рэспублікі Кемаль Ататюрк. Цела «бацькі ўсіх турак» спачывае ў велічэзным маўзалеі з белага мармуру.

**1938.** Памёр у лагеры беларускі кампазітар і збіральнік народных песень Уладзімір Тэраўскі, аўтар музыкі да гімна Слуцкага паўстання і беларускай эміграцыі «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

**1941.** Нацысты расстралялі ўсіх насельнікаў Барысаўскага гета — каля 10 тыс. чалавек.

**1982.** Памёр Леанід Брэжнеў, генсек ЦК КПСС.

## *11 лістапада*

**1898.** Нарадзіўся класік французскага кіно Рэне Клер. Шмат эксперыментаваў: напрыклад, у фільме «Пад дахамі Парыжа» (1930) частка эпізодаў адбываецца, як у радыётэатры, у поўнай цемры, а іншая — без гуку, як у акварыуме.

**1918.** Аб 11-ай гадзіне 11 дня месяца скончылася падпісаннем замірэння ў Камп'енскім лесе Першая сусветная вайна. У Вялікабрытаніі і Францыі з 1919 г. пачалі адзначаць 11 лістапада не як дзень перамогі, а як дзень жалобы па 8 мільёнах чалавек, палеглых у вайне. Брытанцы ўвялі ў гэты дзень дзве хвіліны маўчання па ўсёй імперыі. Пасля Другой сусветнай вайны 11 лістапада ці бліжэйшая да яго нядзеля, адзначаецца ў Еўропе як дзень памяці па палеглых у абедзвюх сусветных войнах.

## *12 лістапада*

**1623.** Жыхары Віцебска паўсталі супраць прымусовага пераходу ва уніяцтва і забілі полацкага арцыбіскупа Ясафата Кунцэвіча. За гэта 20 месцічаў былі пакараныя смерцю, а Віцебск быў пазбаўлены магдэбургскага права. Кунцэвіч жа быў кананізаваны ў святыя грэка-каталіцкай царквы.

**1918.** Рэгенцкая Рада Польшчы прызначыла Юзэфа Пілсудскага «начальнікам дзяржавы».

**1926.** Упершыню пры мафіёзных разборках быў скарыстаны самалёт. У штаце Ілінойс адна банда скінула на штаб-кватэру другой тры авіябомбы (з нейкай прычыны яны не ўзарваліся). Абодва кланы займаліся кантрабандай алкагольных напояў у эпоху «сухога закона».

**1968.** Генеральны сакратар ЦК КПСС падчас візіту ў Варшаву агучыў г.зв. «дактрыну Брэжнева» (геапалітычную дактрыну СССР адносна цэнтральна-еўрапейскіх сатэлітаў): Арганізацыя Варшаўскага дагавора мае права сілай спыняць спробы любой з краінаў-удзельніцаў аднавіць капіталістычны лад (што і было прадэманстравана ў Чэхаславакіі).

**1987.** Карціна Вінсента Ван Гога «Ірысы», напісаная ім у псіхіятрычнай лякарні ў Сен-Рэмі, была прададзеная з аўкцыёна за 50 млн. долараў.

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# Абсолютный успех рекламы

## *В Швеции есть памятник самогонному аппарату*

**Каких только памятников нет на свете. Но монумент в небольшом городке Охусе на юге Швеции, наверное, единственный в своем роде. Основу этой скульптурной композиции составляет дистиллятор спирта или, попросту, самогонный аппарат. На его выступах и трубках ненавязчиво разместились маленькие фигурки жаждущих, страждущих и с явным удовольствием потребляющих «огненную воду». Установлен же этот памятник одному из выдающихся творений человеческого разума возле офиса предприятия, производящего знаменитую шведскую водку «Абсолют».**

Завод в Охусе — единственный в мире производитель идеально чистой водки «Абсолют». Здесь же из пшеницы южных районов Швеции изготавливается спирт, вода используется артезианская. Все остальные компоненты для приготовления водки — опыт и высокие современные технологии. Что касается опыта, то шведы занимаются производством (и потреблением) белой водки уже по меньшей мере 500 лет. Когда-то аптекари и монахи получали неочищенный грубый спирт и использовали его в лечебных настоях, в качестве специи, анестезирующего средства, и вообще, как считали, чудесного снадобья от всех недугов. Спирт также использовался для производства черного пороха. Алхимики с его помощью упорно пытались получить золото. В Швеции первая лицензия на производство и продажу спиртного была выдана в 1498 году. А уже с XVII века тамошнее законодательство представляет собой увлекательную историю поиска оптимального соотношения между борьбой за наполняемость государственной казны и борьбой с пьянством.

Поистине революцию в винокуренном деле в середине XIX века совершил бизнесмен Ларс Ульссон Смит, который изобрел и внедрил способ получения действительно чистой водки. За это его нарекли королем водки, и теперь его портрет красуется на каждой бутылке «Абсолюта». Идеально чистая водка господина Смита так понравилась шведам, что в стране пришлось серьезно бороться с пьянством. На долгие годы в Швеции был введен «сухой закон».

Однако славные традиции производства абсолютно чистой водки не пропали. В 1979 году государственная компания *Vin and Sprit* начала производство «новой» марки шведской водки «Абсолют». И тут произошло что-то невероятное. За считанные годы никому не известная водка стала одной из самых популярных в мире. А ведь согласитесь, что тягаться с уже давно утвердившимися на рынке «Смирновым», «Столичной», «Финляндией» не так просто. При этом реклама алкоголя в самой Швеции запрещена по сей день. Но шведы с успехом занялись рекламой там, где это можно.

Началось с названия водки: *Absolut* — понятно и без перевода. Идеальным оказался выбор формы бутылки — воплощения любви шведов к выраженной в дизайне простоте и функциональности прозаических вещей. Водка «Абсолют» не единожды выигрывала премии за лучшее типографское оформление рекламы.

А занимается на фирме рекламой не просто отдел, а целая академия. Сотрудничать с «Абсолютом» считают за честь ведущие художники, дизайнеры, модельеры, фотографы. Вот и разливается со все большим успехом шведская водка по всему миру...

**Сергей ПЯТЕРИКОВ**

# 4,5 миллиона долларов за королеву Викторию

## *В Великобритании на продажу выставлен самый дорогой лот почтовых марок*

Лист, на котором размещено 48 двухпенсовых марок с изображением королевы Виктории, был напечатан в 1840 году. Примерно в то же время его купил герцог Бакклеч. Случайно марки куда-то завалились, и про них все благополучно забыли. Лишь спустя сто с лишним лет, в 1945 году, служащие наследника герцога обнаружили их среди старых письменных принадлежностей. Лист сразу же был признан специалистами одним из самых ценных в мире — практически весь тираж этой марки был расклеен на письма, и, судя по всему, других столь полных фрагментов листа просто не существует.

До недавнего времени он находился в частной коллекции, но несколько месяцев назад выкуплен дилерской компанией по продаже марок «Спик энд Санз» и теперь выставляется на продажу. Компания оценила лот в 2,75 миллиона фунтов стерлингов (4,5 миллиона долларов).

Торговцы и филателисты утверждают, что это самая высокая цена, когда либо запрошенная за марки. Пока, однако, их никто не приобрел. Поэтому, согласно Книге рекордов Гинесса, самой дорогой маркой все еще остается шведская почтовая марка 1855 года выпуска, проданная с аукциона за 2,2 миллиона долларов.

**М.К.**

# Новогодние елки из Дании

**Система государственных стандартов знакома каждому советскому человеку еще с детства. Теперь за стандартизацию принялись и наши северные друзья — норвежцы. Правда, они решили стандартизировать не что иное, как рождественские елки.**

Стандарт на елки стал очередным шагом норвежцев в борьбе с импортом из соседней Дании. По новой системе ранжирования, включающей в себя три класса, только стройные деревья с одной верхушкой, обыкновенной формой и цветом, не обработанные химикатами и прочей гадостью, будут считаться первосортными. *«Мы хотим стандартизировать наши деревья для того, чтобы гарантировать покупателям качество и стимулировать экспорт»,* — говорит Хальмар Андерсен, представитель Норвежской ассоциации стандартов.

Норвежцы каждый год покупают около полутора миллионов рождественских деревьев, но треть из них импортируют из Дании. В Дании елки лучше растут и стоят дешевле, чем норвежские. Теперь продавцам елок придется срубать их не позже 20 ноября и иметь об этом сертификат.

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Юрыдычны адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1258 Нумар падпісаны ў друк 09/11/98 (15:00) Наклад — 18.120